**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.
**Выдаецца са снежня 1994 года**
**№ 19 (840) 12 траўня 2016 года.**
**Кошт свабодны.**

**Штотыднёвая газета**
vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае













ISSN 2077-8023





Глыбокае, 9 траўня 2016 г. *Фота Ул. Скрабатуна.*



**Хлопцы з дапамогай бацькоў і інструктараў спрабуюць разабраць і сабраць аўтамат Калашнікава.**

Асноўныя мерапрыемствы па святкаванні Вялікай Перамогі ў Віцебскай вобласці адбыліся ва Ушацкім раёне. Каля 3 тыс. чалавек сабраліся на адкрыццё пасля рэканструкцыі мемарыяльнага комплексу «Прарыў». На мемарыяле адбыўся мітынг, прысвечаны 71-й гадавіне Перамогі і 72-й гадавіне прарыву блакады на тэрыторыі Ушацкага раёна.

Мемарыяльны комплекс «Прарыў» адкрыты ў чэрвені 1974 года — на месцы прарыву варожай блакады 5 мая 1944 года партызанамі Полацка-Лепельскай зоны ў 7 км ад Ушачаў. Тут 16 партызанскіх брыгад на чале з будучым Героем Савецкага Саюза Уладзімірам Лабанком вырваліся з акружэння і змагаліся з карнымі атрадамі да прыходу частак Чырвонай Арміі. Разам з партызанамі змаглі вызваліцца і больш за 15 тыс. мірных жыхароў.

*Ул. Скрабатун.*











**Падача абвестак па тэлефоне № 166**

## Авіябілеты з Беларусі ў Расію падаражэлі больш, чым у 2 разы

**Сярэдні кошт авіябілета ў адзін бок з Расіі ў Беларусь у траўні склаў каля 108 даляраў. Год назад было ў два разы танней.**

Кошты на авіябілеты з Беларусі ў Расію за год павялічыліся ў 2,1 раза і склалі 108 даляраў, піша eurobelarus.info .

Летась квіток у адзін бок у Беларусь каштаваў у сярэднім 3 431 расійскіх рублёў. Такім чынам, кошты выраслі ў 2,1 раза.

Таксама за год істотна падаражэлі квіткі з Расіі ў Нямеччыну: у сярэднім на 73%.

У наш час з Мінска ў Маскву авіяперавозкі выконваюць кампаніі “Белавиа”, “Аэрафлот”, “Ютэйр”, Air Baltic, S7 Airlines.

*eurobelarus.info .*

### Полацкі раён

## Клапан мог нарабіць бедаў

■ Станіслаў Раманчук.

**Ужо амаль паўстагоддзя акрамя нафтаперапрацоўчага гіганта "Нафтана" яшчэ адным з важнейшых для Наваполацка заводаў застаецца "Палімір".**

З-за наяўнасці значнага нафтахімічнага комплексу ў кватэрах мясцовых жыхароў абавязкова знаходзяцца дома працівагазы на выпадак надзвычайных сітуацый. На шчасце, да гэтага ніколі не даходзіла, хоць і днямі ў канцы рабочага дня відавочцы бачылі выбух і моцнае полымя ў адным з паліміраўскіх цэхаў. Аб вытворчай аварыі дзяжурны дыспетчар прадпрыемства адразу паведаміў на пульт аператыўнага кіравання МНС і аб тым, што ніхто з работнікаў не пацярпеў. Як было неўзабаве ўстаноўлена, інцыдэнт адбыўся ў цэху № 105, дзе вырабляюць этылен да 12 тон у гадзіну. На шчасце, спрацавала супрацьаварыйная сістэма абароны і ў выніку ўдалося пазбегнуць сур'ёзнай аварыі. Камісія спецыялістаў завода аператыўна высветліла, што ў той дзень выйшаў са строю клапан рэгуліроўкі ціску ў рэактары. Імгненна павысілася тэмпература і ціск, але бездакорна спрацавала супрацьаварыйная сістэма. Спецыялісты завода замянілі дэталі, якія выйшлі са строю і неўзабаве цэх зноў быў запушчаны на нармальны цыкл выпрацоўкі прадукцыі. Дзяжурныя гарэлкі з дапамогай аўтаматыкі прадухілілі выкід у атмасферу выбуханебяспечных газаў этылену. Дарэчы, на абодвух заводах нафтахімічнага комплексу апошнім часам працягваюцца работы па мадэрнізацыі, якія забяспечваюць бяспеку пры ўзнікненні розных такіх вось няштатных сітуацый.

### Віцебскі раён

## Пратэст з вышыні

■ Кастусь Александровіч

**Па меры пагаршэння эканамічнай сітуацыі затрымкі заробкаў сталі для суайчыннікаў дрэннай завядзёнкай.**

Аднак беларусы да актыўных форм пратэстаў супраць такіх фактаў не пераходзяць, праўда сталі часцей скардзіцца пра гэта на "прамыя лініі". І толькі малады 25-гадовы віцебскі рабочы-аддзелачнік Дзмітрый Сталяроў рашыўся на адчайны крок і паехаў у беларускую сталіцу. Там былы выпускнік вучылішча алімпійскага рэзерву днём залез на вельмі высокі вежавы кран на мінскім стадыёне "Дынама", дзе ідзе рэканструкцыя, і такім чынам прыцягнуў увагу да сваёй сітуацыі. У некалькіх мясцовых будфірмах хлопца элементарна кінулі і не заплацілі яму за выкананыя работы некалькі дзясяткаў млн. рублёў. Пакуль з ім ішлі перамовы, экстрэмал перадаў праз кранаўшчыка дакументы з месца сваёй апошняй працы. Толькі вечарам ён вырашыў спусціцца з вышыні. Для далейшых разборак яго адвезлі ў бліжэйшы аддзел міліцыі, але неўзабаве адпусцілі, паколькі шэраг прыведзеных фактаў адразу пацвердзіўся. Віцяблянін вечарам сеў на бліжэйшы цягнік і ўжо наступнай раніцай быў у родным горадзе. Праваахоўныя органы зоймуцца праверкай атрыманых фактаў, яму спецыялісты паабяцалі таксама юрыдычную дапамогу. Дарэчы, пасля службы ў арміі Дзмітрый некалькі месяцаў стажыраваўся ў атрадзе міліцыі спецыяльнага прызначэння, але свой далейшы лёс з міліцэйскай службай вырашыў не звязваць. Ён пайшоў працаваць па спецыяльнасці, атрыманай у дзяржаўным тэхнічным каледжы абласнога цэнтра.

### Шумілінскі раён

## Дарога да храму

■ Чэслаў Якубовіч.

**Вельмі актыўна апошнім часам у розных кутках Віцебшчыны адраджаюцца ранейшыя, страчаныя за гады ваяўнічага атэізму традыцыі хрысціянскага жыцця.**

Вось і жыхары райцэнтра Шуміліна сталі напярэдадні светлага дня Пасхі Хрыстовай сведкамі яшчэ адной радаснай падзеі. З благаслаўлення архіепіскапа Віцебскага і Аршанскага Дзмітрыя тут адбылася цырымонія ўстаноўкі цэнтральнага прыгожага купала ўзводзімай царквы святіцеля Мікалая Цудатворцы. Спачатку пад веснавым дажджом шматлікія прыхаджане, госці з іншых прыходаў, жыхары гарпасёлка прайшлі крыжовай дарогай па вуліцах райцэнтра ад храма св. А. Брэсцкага да новай святыні. Паблізу гэтага прыгожага велічнага храма, які будуецца чацвёрты год, прайшоў малебен. Былі асвечаны сакратарам Віцебскай епархіі пратаірэем Уладзімірам пазалочаны крыж і сам вялікі купал. Духоўныя асобы выказалі спадзяванне, што ў гэтым храме мясцовыя жыхары змогуць рэгулярна сустракацца з Госпадам у малітвах, пра ягоную ласку атрымоўваць патрэбную падтрымку і сілы для годнага зямнога жыцця. Дарэчы, каб новая царква паўстала прыгожай і велічнай, мясцовыя жыхары, прадпрыемствы і арганізацыі ахвяравалі на будоўлю каля 1 мільярда сабраных рублёў. Праз некаторы час гэты храм атрымае і ўнутранае аздабленне, будзе добраўпарадкавана і прылягаючая тэрыторыя і ён будзе таксама ўпрыгожваць райцэнтр, як і адноўлены велічны касцёл пры ўездзе сюды з абласнога цэнтра.

**Надвор'е ў Глыбокім** www. rp5ru

| | Чацвер 12.05.16 | | | | Пятніца 13.05.16 | | | | Субота 14.05.16 | | | | Нядзеля 15.05.16 | | | | Пан. 16.05. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 |
| Хмарнасць Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +12 | +13 | +17 | +15 | +10 | +13 | +20 | +17 | +14 | +14 | +21 | +18 | +16 | +13 | +18 | +15 | +13 | +13 | +15 |
| Ціск | 744 | 746 | 744 | 742 | 741 | 741 | 739 | 737 | 737 | 738 | 737 | 737 | 737 | 738 | 739 | 739 | 739 | 742 | 743 |
| Вецер м/сек | 3 С-В | 5 В | 6 В | 2 Ю-В | 3 В | 6 Ю-В | 6 Ю-В | 3 В | 5 Ю | 7 Ю-В | 8 Ю-В | 4 Ю | 5 Ю | 6 Ю-В | 7 Ю-В | 5 Ю | 4 Ю | 4 Ю-В | 1 В |
| Вільготнасць | 60 | 57 | 35 | 37 | 60 | 59 | 40 | 41 | 53 | 60 | 46 | 49 | 75 | 93 | 59 | 62 | 74 | 75 | 73 |

# Аб самым надзённым

## ІСНУЮЧАЯ САВЕЦКАЯ МАДЭЛЬ ЭКАНОМІКІ НЕ ЗМОЖА Ў БЕЛАРУСІ ПРАЦАВАЦЬ ЭФЕКТЫЎНА



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Сапраўды, да нядаўняга часу наша краіна жыла і трымалася на ранейшай савецкай індустрыяльнай базе, вырашала толькі некаторыя свае кароткатэрміновыя праблемы і не задумвалася аб сваёй далейшай перспектыве.**

Услед за хутка прынятым рашэнні аб павышэнні пенсійнага ўзросту для беларусаў асноўныя далейшыя падзеі ў нашай краіне адбываліся прадказальна. Праўда, толькі нечакана беларускі лідар стаў спецыяльным госцем саміта Арганізацыі 57 дзяржаўчленаў Арганізацыі ісламскага супрацоўніцтва. Паколькі гэта мерапрыемства прайшло ў Стамбуле, а А. Лукашэнка сустрэўся там і са сваім турэцкім калегам Рэджэпам Эрдаганам, то адразу шэраг расійскіх СМІ абрушыліся з крытыкай на кіраўніка Беларусі і з папрокамі, што ён здраджвае свайму галоўнаму саюзніку. Дарэчы, і ў самім Крамлі коса глядзяць на тое, як могуць поўнасцю стаць нармальнымі і беларускаамерыканскія адносіны.

Перад праваслаўнай Вербнай нядзеляй ва ўсіх кутках краіны прайшоў традыцыйны рэспубліканскі суботнік, а сабраныя сродкі пойдуць на сацыяльныя мэты. Большую частку грошай накіруюць на будаўніцтва ў Гомелі новай абласной дзіцячай клінічнай бальніцы. Напярэдадні выхаду на працу на розныя аб'екты суайчыннікі (хто хацеў) маглі паслухаць чарговае Пасланне главы дзяржавы беларускаму народу і Нацыянальнаму сходу. На гэты раз такое яго выступленне не было працяглым па часе – толькі паўтары гадзіны, паколькі да абмеркавання важнейшых задач, якія стаяць перад краінай, неўзабаве вернуцца на прадстаячым ужо V Усебеларускім сходзе.

Аднак дасведчаныя ў палітыцы спецыялісты звярнулі ўвагу на тое, што сёлета А. Лукашэнка адразу ў сваёй прамове перайшоў да задач у эканамічнай сферы. У ранейшых такіх выступленнях наадварот на першае месца выходзілі пытанні знешняй палітыкі, барацьба з карупцыяй і становішча сацыяльнай сферы. Цяпер міжволі прыйшлося гаварыць аб набалелым, бо народ бачыць, як у Беларусі пагаршаецца становішча з-за крызісу ў эканоміцы і падзення вытворчасці. У сувязі з гэтым нават спіс "дармаедаў" вырашылі скараціць, а мясцовым уладам дазволяць вызваляць ад выплаты падобнага збору асобных людзей у выпадку складанай фінансавай сітуацыі ў сям'і.

Праўда, было б дзіўным, каб у сталічнай авальнай зале прама сказалі, што ў нас эканамічны крызіс. У такім выпадку трэба было адказваць прысутным, хто ў гэтым вінаваты. Адказы на ўсе ўзнікшыя няпростыя эканамічныя праблемы, як адразу папярэдзіў кіраўнік краіны, трэба шукаць у прэзідэнцкім Указе № 78 і ў Праграме дзейнасці беларускага ўрада на гэту пяцігодку. Дакладчык адначасова акрэсліў і 10 пунктаў важнейшых задач, якія неабходна ажыццявіць, як мага найхутчэй.

Ён даручыў паўсюдна знізіць не меней чым на 25% затраты на вытворчасць і рэалізацыю прадукцыі, але ў рамках існуючай фактычна па-ранейшаму яшчэ савецкай эканамічнай сістэмы. Зрабіць гэта будзе вельмі няпроста з-за ўзнікшага зараз крызісу масавых няплацяжоў. У дадатак даўгі нашых прадпрыемстваў сёлета выраслі яшчэ на 5,4 % і дасягнулі астранамічнай сумы 372,1 трлн. рублёў. Пад пытаннем увогуле вяртанне айчынным банкам пратэрмінаваных крэдытаў у суме 68,7 трыльёнаў на фоне інфляцыі за 2 месяцы ў памеры 4,8 %, на колькі выраслі цэны для спажыўцоў.

У пачатку лета ў беларускай сталіцы як манны нябеснай чакаюць прыбыцця чарговай місіі МВФ і Сусветнага банку, а пакуль прэзідэнт даручыў ураду ўбраць усялякія бар'еры на шляху замежных капіталаў у нашу краіну. Між тым, на жаль, экспарт галоўных нашых тавараў цяпер нафтапрадуктаў скарацiўся ў гэтым годзе на трэць з-за зніжэння сусветных цэн на нафту. Праўда, агучаныя ў Мінску задачы правільныя і актуальныя, як і стварэнне штогод не меней 50 тысяч новых працоўных месцаў. Адзіная загвоздка, што на далейшыя непапулярныя меры па выхаду з крызісу кіраўніцтва Беларусі ісці не хоча.

А галоўная праблема ў тым, што існуючая дзяржава проста не можа адмовіцца ад татальнага кантролю за эканомікай і іншымі сферамі жыцця грамадства. На гэты конт вядомы беларускі эканамістэксперт Сяргей Чалы сказаў прама: " усе праблемы, якія цяпер узніклі, - гэта пытанні, нявырашаныя ў 1990-я гады, як ставіцца да прыватнай уласнасці, якая доля ў эканоміцы прыватнага сектару, ці патрэбная прыватызацыя, што рабіць з прадпрыемствамі-банкрутамі?".

Сапраўды, да нядаўняга часу наша краіна жыла і трымалася на ранейшай савецкай індустрыяльнай базе, вырашала толькі некаторыя свае кароткатэрміновыя праблемы і не задумвалася аб сваёй далейшай перспектыве. У пэўнай ступені так жыла і суседняя Расія, руская ўвогуле купаліся ў мільярдах нафтадолараў і нам нешта перападала ад "братэрскай інтэграцыі". Сітуацыя ў Беларусі значна больш трывожная, паглыбляюцца сацыяльна-эканамічныя праблемы, усё меней рэсурсаў, а дзярждоўг расце. Аднымі намерамі на паперы і пажаданнямі, спасылкамі на неспрыяльныя знешнія фактары, загадамі павысіць дысцыпліну эканоміку не аздаравіць. Тут ужо моцна трэба думаць, як без узрушэнняў пражыць хоць бы гэты і наступныя гады. Цяжкасці між тым не за гарамі, бо многія неэфектыўныя нашы прадпрыемствы будуць банкруціцца і адміраць, што мы ўжо і назіраем.

## Дзень за днём

**Большасць рэгіёнаў Беларусі правалілі ў І-м квартале асноўныя параметры сацыяльна-эканамічнага развіцця. Ужо амаль палова айчынных прадпрыемстваў сталі стратнымі. Інфляцыя ў Беларусі ў І-м квартале дасягнула 5,7 %, ВУП краіны знізіўся на 3,6 %. А. Лукашэнка паабяцаў, што V Усебеларускі сход прыме рэалістычную праграму развіцця краіны, а не манілаўшчыны. Новыя парламенцкія выбары пройдуць 11 верасня. Жыхароў непрыватызаваных кватэр пачнуць высяляць летам ужо за 2-месячныя даўгі па кватплаце. Адразу на 3-х каналах Беларускае тэлебачанне будзе трансліраваць чэмпіянат свету па хакеі.**

## Важнейшыя навіны свету

**Англія.** Прэм'ер-міністр Д. Кемеран папярэдзіў брытанцаў аб цяжкіх наступствах магчымага выхаду краіны з ЕС, гэта адразу ўдарыць па іх заробках, выкліча рост цэн.

**Літва.** Прэм'ер-міністр А. Буткявічус заявіў, што Беларусь павінна гарантаваць сваю АЭС стандартам міжнароднай бяспекі, а яе электраэнергію літоўцы купляць не будуць.

**Расія.** Пры прысутнасці прэзідэнта У. Пуціна "Раскосмас" не змог правесці першы запуск ракеты-носьбіта "Саюз-2.1а" з новага касмадрома "Усходні" з-за збою сістэмы кіравання.

**Украіна.** Вярхоўны суд акупіраванагаКрыма прызнаў Меджліс крымскіх татар экстрэмісцкай арганізацыяй і забараніў яго дзейнасць на тэрыторыі Расіі.

**Бельгія.** ЕС і ЗША рэзка абурыліся забаронай Расіі на дзейнасць Меджліса крымскіх татар, відавочным парушэннем дэмакратычных правоў "цэлай гістарычнай супольнасці".

**Венесуэла.** З-за дэфіцыту электраэнергіі ўрад краіны скараціў для 2-х мільёнаў работнікаў бюджэтнай сферы да двух дзён працоўны тыдзень, заводы, школы і ВНУ працуюць 4 дні.

**Японія.** Карпарацыя Mitsubishi пачала лётныя выпрабаванні першага найноўшага японскага самалёта-знішчальніка 5-га пакалення X-2 Shinshin уласнай распрацоўкі.

**Літва.** У прысутнасці прэзідэнта Д. Грыбаўскайтэ на базу ВПС краіны ў Шаўляі прыбылі самыя сучасныя ў свеце самалёты-знішчальнікі ЗША F-22, нябачныя для радараў.

**Польшча.** Фірма Velux Polska апярэдзіла канкурэнтаў з Германіі і Італіі і стала буйнейшым у ЕС экспарцёрам дзвярэй і вокнаў, мэблі за год палякі прадалі 1,5 млрд. еўра.

**Расія.** Улады правялі ў Маскве Міжнародны форум бяспечнага інтэрнэта, каб з дапамогай Кітая асвоіць тэхналогіі фільтрацыі непажаданых сайтаў, падавіць у РФ іншадумства.

**Украіна.** Новы ўрад краіны на чале з У. Гройсманам уводзіць рынкавыя цэны на газ для насельніцтва, найбольш малазабяспечаныя людзі атрымаюць дзяржсубсідыі.

**Францыя.** Суд пакараў зубнога ўрача галандца 8 гадамі турмы за прычыненне калецтва 120 пацыентам, яму забаранілі пажыццёва займацца медыцынскай дзейнасцю.

**Германія.** Следства выявіла, што прычынай сутыкнення двух цягнікоў у лютым з гібеллю 11 чалавек стала памылка дыспетчара, які страціў увагу з-за мабільнага тэлефона.

**Расія.** Інстытут аналіза і прагназавання РАНГ РФ пацвердзіў, што расіяне сталі больш паловы сваіх даходаў траціць на прадукты, людзі бяднеюць на працягу ўжо 16 месяцаў.

**Бразілія.** За 100 дзён да XXXI Алімпіяды былі раскуплены 86 % нумароў гасцініц Рыа-дэ-Жанейра, звыш 4 млн. білетаў - на буйнейшыя ў свеце спаборніцтвы сярод 206 краін.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Дэталізаваныя ўкладышы да дыпломаў плануюць увесці ў Беларусі




■ БЕЛТА

**Дэталізаваныя ўкладышы да дыпломаў плануецца ўвесці ў Беларусі, паведаміў міністр адукацыі Беларусі Міхаіл Жураўкоў ў эфіры тэлеканала «СТВ», паведамляе БЕЛТА.**

«Мы зараз кардынальна мяняем дадатак да дыплома, дзе будзе выстаўлены ўвесь аб'ём праслуханых лекцый, - сказаў міністр. - Каб працадаўца ведаў рэальны аб'ём ведаў прэтэндэнта на пасаду, разумеў, што з сябе ўяўляе спецыяліст».

Акрамя таго, міністр звярнуў увагу, што ў Беларусі для вызначэння попыту на тых ці іншых спецыялістаў працуе спецыяльная камісія. У яе ўваходзяць прадстаўнікі і Мінэканомікі, і Мінадукацыі. Прычым яны займаюцца не толькі бягучай сітуацыяй, але і прагнозамі, напрыклад, на 2020 год.

«Цяпер ужо ідуць размовы пра тое, што проста адукацыю атрымаць - недастаткова, - дадаў кіраўнік Мінадукацыі. - Многія атрымліваюць другую і трэцюю адукацыі».

Напрыклад, для многіх актуальна пытанне атрымання базавых ведаў у сферы эканомікі або права. У прыватнасці, гэта актуальна для бізнесменаў. Што ж датычыцца рабочых прафесій, то зараз патрабуецца такі ўзровень, які па сваёй якасці адпавядае вышэйшай адукацыі, якая была ў 1940-х - 1950-х гадах. Запыт на падрыхтоўку рабочых кадраў з веданнем асноў інжынерыі вельмі вялікі.

«Цяпер змяняецца паняцце - што такое вышэйшая адукацыя. Патрабаванні эканомікі такія, што рабочыя прафесіі адпавядаюць таму ўзроўню ведаў, якія мы раней называлі вышэйшай адукацыяй»,-зрабіў акцэнт міністр. Ён дадаў, што ступень бакалаўра неабходная практычна ў большасці сфер вытворчасці.

## Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Стваральнік канцэрна "Амкадор" В. Шлындзікаў паведаміў, што ў сталіцы спынілі працу завод Леніна, фарфоравы завод і завод аўтаматычных ліній,ідзе абвал шмат дзе.

**Гомель.** Мясцовая малочная кампанія "Мілкавіта" абвергла матэрыялы журналісцкага расследвання пра закуп радыёактыўнага малака з ферм чарнобыльскай зоны.

**Масты.** Пасля заканчэння мадэрнізацыі "Мастоўдрэва" коштам 180 млн. еўра прадпрыемства стала стратным і загружана заказамі толькі напалову сваіх магутнасцей.

**Мінск.** Палітолаг В. Карбалевіч параўнаў V Усебеларускі сход з парадам Сталіна ў Маскве 7 лістапада 1941 года, улада хоча падкрэсліць, што яна моцная і непераможная.

**Ельск.** А. Лукашэнка пацвердзіў, што Беларусі трэба рыхтавацца да таго, каб замест нафты і газу болей выкарыстоўваць электраэнергію пасля ўводу АЭС у Астраўцы.

**Мінск.** На псеўдасацыялізм грошай у краіны, як заявіў палітолаг А. Класкоўскі, ужо няма, наіўна спадзявацца, што без правядзення рэформ нам удасца аднавіць эканамічны рост.

**Мазыр.** Мясцовы тэлеканал паказаў момант падзення пры пасадцы ваеннага верталёта Мі-24 МП, які выпадкова зняла на відэа сямейная пара, вайскоўцы, на шчасце, не пацярпелі.

**Светлагорск.** Пасля трагічнай гібелі ў царкве св. Пятра і Паўла двух мужчын рабочых ад атручвання прыродным газам ад пасады благачыннага адхілілі святара У. Сямёнава.

**Мінск.** Па ўказцы Расіі першаму віцэ-спікеру парламента Украіны Ірыне Герашчанка забаранілі спачатку ўезд у Беларусь, каб прынізіць упаўнаважаную па сітуацыі ў Данбасе.

**Барысаў.** Мясцовы "Водаканал" пачаў заключаць дагаворы з вясковымі жыхарамі па аплаце вады, якую яны бяруць з калодзежаў на балансе камунальшчыкаў.

**Мінск.** Нобелеўскі лаўрэат С. Алексіевіч заявіла, што беларусам патрэбна знаходзіць у сябе сілы заставацца людзьмі ў гэты смутны час, не зламацца, мы і так адсталі ў многім.

**Узда.** На аўкцыёне жадаючых купіць касцёл, у якім хрысцілі бацьку Я. Купалы, не знайшлося, пасля закрыцця ў храме быў РДК, будынак выставяць на паўторныя таргі.

**Мінск.** Міністр спорту і турызму А. Шамко пацвердзіў, што на гэты раз у зборнай Беларусі не будзе медальных планаў на летняй Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра.

**Магілёў.** З траўмамі даставілі ў рэанімацыю 8-гадовага хлопчыка, якога збіў на пешаходным пераходзе са скейтбордам днём мясцовы жыхар на аўтамашыне "Volvo".

**Мінск.** Пасля арышту алігарха Ю. Чыжа ў яго гіпермаркетах ProStore стаў яшчэ большым дэфіцыт тавараў, пустуюць ужо цэлыя паліцы і нават секцыі гэтых буйных магазінаў.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

## Міністэрства аховы здароўя зрабіла больш жорсткімі патрабаванні да выкарыстання ў харчаванні сасісак і каўбас у дзіцячых садках

**Міністэрства аховы здароўя зрабіла больш жорсткімі патрабаванні да выкарыстання сасісак і каўбас у харчаванні дашкольнікаў. Гэта прадугледжана пастановай ведамства №67 ад 3 мая 2016 года, паведамляе БЕЛТА.**

«Дакументам уносяцца змяненні, якія датычацца абмежавання выкарыстання ў харчаванні выхаванцаў устаноў дашкольнай адукацыі вараных каўбас і сасісак», - сказалі ў Рэспубліканскім цэнтры гігіены, эпідэміялогіі і грамадскага здароўя. Тут растлумачылі, што папярэдняй рэдакцыяй пастановы было прадугледжана выкарыстанне ў харчаванні дашкольнікаў сасісак першага і вышэйшага гатунку. Цяпер гаворка ідзе толькі пра прадукцыі вышэйшага гатунку або з маркіроўкай «Для дзяцей дашкольнага і школьнага ўзросту». Пры гэтым змены не закранулі колькасных характарыстык - дзейсныя нормы спажывання вараных каўбас і сасісак у дашкольных установах і так мінімальныя. Для дзяцей да 3-х гадоў - гэта 5 г у дзень (гэта значыць адна сасіска ў два тыдні), ад 3 да 7 гадоў - 10 г (адна сасіска ў тыдзень) .

## Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** З пачатку года ў вобласці прыбавілася 4600 беспрацоўных, узровень афіцыйна зарэгістраванага беспрацоўя дасягнуў 1,3 % і стаў адным з самых высокіх у Беларусі.

**Шуміліна.** На "прамую лінію" ў аблвыканкам паскардзіліся ад адчаю работнікі ААТ "АграБаравінка" на даўгі па зарплаце яшчэ са снежня мінулага года, праблемы шмат дзе.

**Лепель.** Старшыня Камітэта дзяржкантролю Беларусі Л. Анфімаў пазнаёміўся са станам спраў у раёне, дзе 13 прадпрыемстваў стратныя, не загружаны і ўжо 170 беспрацоўных.

**Гарадок.** Мясцовая птушкафабрыка да канца года выйдзе на поўную магутнасць па вырошчванні індыкоў замест бройлераў, рынак якіх перанасычаны ў краіне.

**Паставы.** Прадпрыемства "Паставымэбля" пачало адгрузкі мэблі для дач у Германію, выйграла таксама тэндэр па вырабе 480 камплектаў мэблі для кафэ піўзавода "Крыніца".

**Докшыцы.** На тэрыторыі райбальніцы пачалі ўзводзіць новы стаматалагічны корпус, які злучаць з зубапратэзнай лабараторыяй, завяршаюць рамонт тэрапеўтычнага аддзялення.

**Браслаў.** Пасля службы ў арміі вярнуўся на радзіму і прыйшоў працаваць у КУСП "Відзаўскі" яшчэ адзін аграном Антон Павасар, што цяпер рэдкасць у глыбінцы.

**Віцебск.** Вярхоўны суд зноў не дазволіў экссенатарцы Ганне Шарэйка пабрацца шлюбам у СІЗА са сваім закаханым, літоўскім бізнесменам Вальдэмарасам Норкусам.

**Ушачы.** За лоўлю падчас нерасту акунёў супрацоўнікі аховы прыроды затрымалі ля вёскі Вяркуды траіх браканьераў, яны заплоцяць штраф у памеры 459 млн. рублёў.

**Расоны.** Полацкія краязнаўцы Андрэй і Аляксей Бухавецкія ўстанавілі памятную таблічку ў вёсцы Клясціцы на доме, пабудаваным у 1854 годзе для аховы помнікачасоўні.

**Віцебск.** Для паказу на IX Міжнародным фестывалі лялечных тэатраў Віцебскі тэатр "Лялька" падрыхтаваў новы спектакль "Спакуса" па адным з апавяданняў А. Чэхава.

**Полацк.** Вечарам у вёсцы Кстоўка падчас сумеснага распіцця спіртных напояў узнікла спрэчка, якая завяршылася забойствам 48-гадовага сужыцеля гаспадыні дома.

**Шаркаўшчына.** Штогадовы фестываль "Яблычны Спас" у вёсцы Алашкі памяці садавода-селекцыянера Івана Сікоры набыў статус абласнога, уключаны ў турпраграму краіны.

**Глыбокае.** Глыбачанін, зараз студэнт Гродзенскага дзяржуніверсітэта Ілья Лаўрыновіч заняў 2-е месца на рэспубліканскім турніры па класічнай барацьбе і стаў майстрам спорту.

**Сянно.** У рамках падрыхтоўкі да абласных "Дажынак" пачалі рэканструкцыю гарадскога стадыёна, капітальна будзе адрамантаваны і ФАК, ідзе ўзвядзенне біятлонная базы.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па матэрыялах інфармагентстваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# У Беларусі пражываюць 13,7 тыс. ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны

У Беларусі, паводле даных на 1 красавіка бягучага года, пражываюць 13 тыс. 682 ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны, паведаміла карэспандэнту БЕЛТА прэс-сакратар Міністэрства працы і сацыяльнай абароны Таццяна Максімава. Цяпер у Мінску жывуць два Героі Савецкага Саюза, якія атрымалі гэта высокае званне ў гады ВАВ, - Мічурын Васіль Сяргеевіч і Кустоў Іван Ільіч. У рэспубліцы сярод 9 тыс. удзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны амаль 2,4 тыс. чалавек з'яўляюцца інвалідамі. З-за старога ўзросту, хвароб, наступстваў раненняў з кожным годам ветэранаў ВАВ становіцца ўсё менш. Так, у 2015 годзе з жыцця пайшлі 3,3 тыс. ветэранаў вайны, у бягучым годзе - амаль 0,8 тыс. чалавек. На 1 красавіка бягучага года ў рэспубліцы налічвалася амаль 3,8 тыс. чалавек, узнагароджаных ордэнамі або медалямі СССР за самаадданую працу і бездакорную воінскую службу ў тыле ў гады вайны, а таксама больш за 240 чалавек, якія працавалі на аб'ектах проціпаветранай абароны, будаўніцтве абарончых збудаванняў, прыфрантавых участках чыгунак і аўтамабільных дарог, членаў экіпажаў суднаў, інтэрніраваных у пачатку ВАВ у партах іншых дзяржаў. У Беларусі на 1 красавіка было 59 чалавек, якія прымалі ўдзел у складзе спецыяльных фарміраванняў у размініраванні тэрыторый і аб'ектаў пасля вызвалення ад нямецкай акупацыі ў 1943-1945 гадах. У краіне жывуць 560 чалавек, які працавалі на прадпрыемствах, ва ўстановах і арганізацыях Ленінграда ў перыяд блакады і ўзнагароджаны медалём "За абарону Ленінграда", знакам "Жыхару блакаднага Ленінграда". У рэспубліцы налічваецца менш за 800 інвалідаў з дзяцінства ў выніку ранення, кантузіі, калецтва, звязаных з баявымі дзеяннямі ў перыяд Вялікай Айчыннай вайны або з іх наступствамі. Членамі сем'яў загінулых воінаў і партызанаў з'яўляюцца 784 чалавекі. Былымі вязнямі фашысцкіх канцлагераў, турмаў, гета і іншых месц прымусовага ўтрымання прызнаны 22,3 тыс. жыхароў рэспублікі. Прававы статус і меры сацыяльнай абароны ветэранаў Вялікай Айчыннай вайны вызначаны законамі Рэспублікі Беларусь "Аб статусе Герояў Беларусі, Герояў Савецкага Саюза, Герояў Сацыялістычнай Працы, кавалераў ордэнаў Айчыны, Славы, Працоўнай Славы", "Аб ветэранах", "Аб дзяржаўных сацыяльных ільготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян". У адрозненне ад іншых краін у Беларусі для ветэранаў вайны ўстаноўлены льготы па медыцынскім абслугоўванні, забеспячэнні лекавымі сродкамі, тэхнічнымі сродкамі сацыяльнай рэабілітацыі, санаторна-курортным лячэнні і аздараўленні, прадастаўленні жылых памяшканняў, жыллёва-камунальных паслугах, па аплаце карыстання кватэрным тэлефонам, праездзе на пасажырскім транспарце. Акрамя таго, на іх распаўсюджваюцца льготы, прадугледжаныя падатковым, працоўным, пенсійным заканадаўствам.

*БелТА.*

# У Лаўрынаўскім лесе рэканструявалі мемарыял памяці спаленым вёскам Глыбоччыны

**Уладзімір Скрабатун,** *тэкст і фота.*

У Лаўрынаўскім лесе – на паўдарозе з Глыбокага да вёскі Лаўрынаўка – знаходзіцца мемарыял памяці спаленым вёскам Глыбоцкага раёна. Месца для мемарыяла, яшчэ ў савецкія часы, было выбрана не выпадкова. Недалёка ад яго, у гэтым жа лесе, – 2 спаленыя фашыстамі вёскі: Лаўрынаўка і Барыкоўшчына. Апошняя пасля вайны так і не адрадзілася. На гэтай жа дарозе, праз 19 кіламетраў, спаленая вёска Галубічы, сястра Хатыні. У выніку карнай аперацыі загінула 216 яе жыхароў. У полымі згарэў палац, дзе ў 1930-я гады спыняліся польскія прэзідэнты – Ігнацы Масціцкі і Станіслаў Вайцяхоўскі – падчас палявання ў Галубіцкай пушчы, а таксама ўсе гістарычныя пабудовы колішняга мястэчка.

У ходзе цяперашняй рэканструкцыі мемарыяла дадалася прыдарожная






каплічка з крыжам і званом, на ёй шыльда з надпісам – **"1941-1944. Помнік спаленым вёскам Глыбоцкага раёна"**.

Прылеглая тэрыторыя была ачышчаная ад хмызнякоў і зараснікаў, якія раней ускладнялі падыход да помніка.

Побач з галоўным манументам мемарыяла – два дзясяткі бетонных пліт з шыльдамі назваў вёсак, якія згарэлі ў полымі карных аперацый, і абазначэннем колькасці жыхароў, якія загінулі ў кожнай вёсцы.







# У Лепелі падлеткі ў масках абрабавалі краму і вынеслі 4 мільёны рублёў

**Лепельскім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь расследуецца крымінальная справа, распачатая ў дачыненні да двух непаўналетніх жыхароў горада Лепеля, якія падазраюцца ў здзяйсненні разбойнага нападу на краму.**

У ходзе следства ўстаноўлена, што днём 29 красавіка 15 і 16-гадовы навучэнцы адной з сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў Лепеля, надзеўшы маскі з прарэзамі для вачэй і пагражаючы прадаўцу нажом і прадметам, падобным на пісталет, выкралі з касы крамы раённага спажывецкага таварыства 4 мільёны рублёў.

Пасля здзяйснення злачынства непаўналетнія ўцяклі з месца злачынства, аднак дзякуючы сумесным дзеянням следчых і супрацоўнікаў міліцыі былі затрыманыя ў сцісłыя тэрміны.

У дачыненні да падазраваных Лепельскім раённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь заведзеная і расследуецца крымінальная справа па ч.2 арт.207 (разбой, учынены групай асоб) Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

Следчыя працягваюць працу па крымінальнай справе: праводзяць допыты падазраваных, вочныя стаўкі, праверкі паказанняў на месцы, прызначаюць неабходныя экспертныя даследаванні, асобную ўвагу надаюць высвятленню прычын і ўмоў, якія садзейнічалі ўчыненню злачынства, даследуюць асобы падазраваных шляхам збору характэрнага матэрыялу. У цяперашні час падазраваныя даюць прызнальныя паказанні, тлумачачы, што збіраліся выдаткаваць выкрадзеныя грошы на куплю новых асабістых рэчаў.

*sk.gov.by*

# Беларусь прэтэндуе на правядзенне чэмпіянату свету па хакеі ў 2022 годзе

**Беларусь прэтэндуе на правядзенне чэмпіянату свету па хакеі ў 2022 годзе. Аб гэтым заявіў 6 мая на прэс-канферэнцыі, прысвечанай старту сусветнага форуму ў Маскве і Санкт-Пецярбургу, кіраўнік Міжнароднай федэрацыі хакея (IIHF) Рэнэ Фазель, паведамляе БелТА.**

"Цяпер мы дакладна ведаем, хто правядзе чэмпіянаты свету да 2020 года. У 2021 годзе чэмпіянат хоча правесці Фінляндыя, а ў турніры 2022 года зацікаўлены Беларусь і Латвія", - сказаў Рэнэ Фазель.

Беларусь праводзіла чэмпіянат свету ў 2014 годзе, Латвія была гаспадыняй турніру ў 2006-м.

*БелТА.*



# У беларускіх цягніках можа з'явіцца Wi-Fi

**Беларускія цягнікі могуць абсталяваць стабільнай мабільнай сувяззю, а таксама кропкамі доступу да Wi-Fi. Пра гэта 6 траўня падчас анлайн-канферэнцыі ў Белтэлерадыёкампаніі распавёў першы намміністра сувязі і інфарматызацыі Дз.Шадко.**

Па яго словах, міністэрства цяпер вядзе перамовы з БЖД па запуску праекта, які прадугледжвае ўсталёўку на рухомы састаў абсталявання, з дапамогай якога пасажыры змогуць карыстацца стабільнай сувяззю на працягу ўсяго шляху маршруту.

Дз. Шадко таксама адзначыў, што будаваць базавыя станцыі за чыгуначнымі вакзаламі і на шляху прытрымлівання цягнікоў немэтазгодна, бо шляхі часцяком праходзяць далёка ад населеных пунктаў.

*telegraf.by*

# ЛУЧАЙ ЗАПРАШАЕ НА СВЯТА 14 МАЯ

**14 мая парафія Св. Юды Тадэвуша ў Лучаі (каля г. Паставы) запрашае на фэст у гонар святога Андрэя Баболі, заступніка Беларусі.**

**Пачатак а 15 гадзіне.**

У межах фэсту адбудуцца ўрачыстая Імша, канцэрт і адкрыццё сезону байкераў з асвячэннем матацыклаў.

**Праграма:**

**15:00** - адарацыя Найсвяцейшага Сакрамэнта.

**16:00** - урачыстая адпустовая святая Імша.

**17:30** - святочны канцэрт з удзелам ансамбля песні "Ферцінка". Адкрыццё сезона байкераў з асвячэннем матацыклаў.

***Жадаем шмат прыемных уражанняў і духоўнага адпачынку!***

*Крыніца: luchai.by*

# СНІД не мае межаў, нацыянальнасцяў, полу і ўзросту

## 15 траўня – Міжнародны дзень памяці людзей, памерлых ад СНІДу

**Штогод, з 1983 года, у трэцюю нядзелю траўня ўвесь свет адзначае Міжнародны дзень памяці людзей, памерлых ад СНІДу.**

■ **Л. Козел**, *Заг. аддзела эпідэміялогіі Глыбоцкага РЦГЭ*

Сёлета 15 траўня дзясяткі тысяч людзей ва ўсім свеце запаляць свечкі з нагоды 33 Міжнароднага дня памяці. Міжнародны дзень памяці памерлых ад СНІДу – гэта сімвал падтрымкі людзей, якія жывуць з вірусам імунадэфіцыту чалавека (ВІЧ), сімвал памяці пацярпелых ад наступстваў ВІЧ-інфекцыі, а таксама заклік да дзеяння ў павышэнні ўзроўню інфармаванасці насельніцтва.

У Дзень памяці людзі прышпільваюць да адзежы чырвоную стужачку, якую ў 1991 годзе прыдумаў мастак Франк Мур, як знак жалобы і памяці аб мільёнах, якія пайшлі з жыцця, як знак салідарнасці з тымі, хто мае ВІЧ-станоўчы статус, як знак разумення таго, што СНІД не мае межаў, нацыянальнасцяў, полу і ўзросту.

Згодна статыстыцы Сусветнай асацыяцыі аховы здароўя, на планеце жыве больш за 42 мільёны чалавек, інфіцыраваных вірусам імунадэфіцыту чалавека, і кожны дзень гэтая лічба павялічваецца яшчэ на 14-15 тысяч. Большасць ВІЧ-пазітыўных – гэта маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў. За апошнія 25 гадоў ад СНІДу памерла каля 25 мільёнаў чалавек.

Па дадзеных афіцыйнай статыстыкі ў Рэспубліцы Беларусь на 1 красавіка 2016 года зарэгістравана 20 тысяч 472 выпадкі ВІЧ-інфекцыі, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 15 тысяч 890, у Віцебскай вобласці – 1 117 выпадкаў, колькасць людзей, якія жывуць з ВІЧ – 890. У Глыбоцкім раёне з 1987 года па цяперашні час зарэгістравана 8 выпадкаў ВІЧ-інфекцыі, па стане на 1 траўня гэтага года – адзін ВІЧ-пазітыўны памёр.

Для распаўсюджвання ВІЧ-інфекцыі не мае значэння сацыяльны статус, узрост, пол і нацыянальнасць чалавека. Важны паводніцкі фактар. У краіне па кумулятыўных дадзеных (з 1987 года па 1 красавіка гэтага года) пераважае палавы шлях перадачы ВІЧ, яго доля складае каля 59,1%, а за мінулы перыяд 2016 года доля палавога шляху перадачы ВІЧ склала больш за 70%.

У рамках Міжнароднага дня памяці людзей, якія памерлі ад СНІДу, штогод праводзіцца шэраг мерапрыемстваў, мэта якіх не толькі ўспомніць пра тых, хто памёр ад СНІДу, але і прыцягнуць увагу ўсяго насельніцтва да гэтай праблемы, нагадаць, што пацярпець ад дадзенай інфекцыі можа любы чалавек, які не ведае і не жадае выконваць прафілактычныя меры абароны ад заражэння ВІЧ.

Прадухіліць заражэнне вельмі проста. Дастаткова папярэдзіць патрапленне ў ваш арганізм біялагічных вадкасцяў іншага чалавека. Гэта значыць:

■ карыстацца прэзерватывам пры палавым кантакце;

■ выконваць асабістую гігіену – выкарыстоўваць індывідуальныя інструменты для галення, манікюру, педыкюру, гігіенічных працэдур;

■ пры правядзенні медыцынскіх маніпуляцый, звязаных з парушэннем цэласнасці скуры і слізістых выкарыстоўваць толькі аднаразовыя інструменты.

Кажучы пра прафілактыку ВІЧ-інфекцыі сярод здаровых, ні ў якім разе нельга забываць пра тых, хто жыве з ВІЧ. Людзі, якія жывуць з ВІЧ, як і ўсе астатнія, маюць права на паўнавартаснае жыццё: любіць і быць любімымі, мець працу і зносіны з калегамі, права на медыцынскае абслугоўванне і годнае стаўленне да сябе.




Малюнак з сайта Куранецкай школы Вілейскага раёна.

# Пра небяспеку ад укусу кляшчоў

**Наступаюць цёплыя вясновыя дні і пасля зімы хочацца пабыць на свежым паветры, папесціцца пад цёплымі промнямі веснавога сонца. Нехта збіраецца папрацаваць на дачы, хтосьці проста пабываць у лесе або каля ракі ці возера. Але трэба памятаць, што вясной актывізуюцца і разнастайныя крывасмокі, якія чакаюць нас на ўлонні прыроды.**

■ **Л. Катовіч**, *памочнік урача-эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ*

У 2015 годзе ў Глыбоцкім раёне было зарэгістравана 102 звароты грамадзян па медыцынскую дапамогу ад укусу кляшчоў.

Неабходна памятаць, што кляшчы з'яўляюцца пераносчыкамі розных інфекцыйных захворванняў, найбольш распаўсюджанымі сярод якіх з'яўляюцца - клешчавы энцэфаліт і клешчавы барэліёз (хвароба Лайма).

Перадача ўзбуджальнікаў клешчавых інфекцый адбываецца пры ўкусе інфікаваным пераносчыкам. Заразіцца клешчавым энцэфалітам магчыма таксама пры ўжыванні сырога малака інфіцыраваных жывёл (так, у мінулым годзе ў краіне было зарэгістравана 6 выпадкаў клешчавога энцэфаліту, заражэнне якім адбылося пры ўжыванні ў ежу сырога казінага малака). Каб вірус загінуў, дастаткова пракіпяціць малако 2-3 хвіліны і можна не трывожыцца за сваё здароўе.

Варта мець на ўвазе, што верагоднасць захворвання на клешчавы энцэфаліт, клешчавы барэліёз і іншыя інфекцыямі, якія перадаюцца кляшчамі, залежыць ад колькасці мікраарганізмаў, якія патрапілі ў арганізм пацярпелага пры ўкусе кляшча, а гэта ў сваю чаргу залежыць ад часу, на працягу якога клешч, прысмактаўшыся, знаходзіўся на целе, таму чым раней вы выдаліце паразіта, які ўчапіўся, тым лепш.

**Клешчавы энцэфаліт** – вірусная інфекцыя, якая паражае цэнтральную і перыферычную нервовую сістэму. Інкубацыйны перыяд захворвання (перыяд ад моманту інфікавання да з'яўлення першых клінічных прыкмет) складае ад 4 да 21 дня. Хвароба пачынаецца востра, праяўляецца дрыжыкамі, галаўным болем, млоснасцю, ванітамі, галавакружэннем, ныючымі болямі ў канечнасцях. Праз некаторы час галаўныя болі ўзмацняюцца, далучаецца напружанасць патылічных мышцаў, святлабоязь, пачуццё аглушанасці, часам сутаргавыя прыпадкі. Дадзенае захворванне можа завяршыцца цяжкімі ўскладненнямі і нават прывесці да смяротнага зыходу. Для клешчавога энцэфаліту характэрна вясенна-гадовая сезоннасць захворвання, звязаная з сезоннай актыўнасцю кляшчоў.

**Клешчавы барэліёз (хвароба Лайма)** – знаходзіцца на другім месцы па небяспецы і з'яўляецца самым распаўсюджаным захворваннем, што перадаюцца кляшчамі. Хвароба Лайма – гэта інфекцыйнае захворванне, выкліканае мікраарганізмамі (барэліямі), якое мае схільнасць да хранічнага і рэцыдывавальнага працягу, і пераважна паражае скуру, нервовую сістэму, апорна-рухальны апарат і сэрца. Інкубацыйны перыяд складае ад 3 да 30 дзён. На тэрыторыі раёна ў 2015 годзе зарэгістравана 2 выпадкі хваробы Лайма.

### Меры прафілактыкі

На працягу сутак актыўнасць кляшчоў да нападу неаднолькавая. У цёплыя дні найбольш агрэсіўнымі яны бываюць з 8 да 11 гадзін; з надыходам спякоты кляшчы становяцца малаактыўнымі. Аднаўляецца іх актыўнасць з 17 да 20 гадзін. У пахмурныя дні актыўнасць кляшчоў на працягу дня амаль не змяняецца, падчас дажджу іх актыўнасць рэзка зніжаецца або спыняецца, але ў дробны дождж яны могуць нападаць на чалавека і жывёл.

Самым эфектыўным метадам прафілактыкі клешчавых інфекцый з'яўляецца прадухіленне кантакту з кляшчом, а ў выпадку ўкусу – хуткае і правільнае яго выдаленне са скуры. Памятайце, што кляшчы звычайна чакаюць ахвяру, седзячы на траве або на галінцы хмызняка і вельмі рэдка падымаюцца на вышыню вышэй за метр. Пры нападзе кляшчы чапляюцца да ног чалавека і потым паўзуць уверх у пошуках зручнага месца для прысмоктвання. Правільна апрануўшыся, можна перыядычна здымаць кляшчоў з адзення, не даючы ім дабрацца да цела. Таму, збіраючыся "на прыроду", апранайце светлае адзенне, якое максімальна закрывае цела: кашуля з доўгімі рукавамі, штаны з гумкай, шалік на шы, капюшон або кепка на галаве і г.д. Акрамя таго, адкрытыя ўчасткі цела варта апрацаваць рэпелентамі, якія адпужваюць кляшчоў. Падчас знаходжання ў лесе або парку варта праз кожную гадзіну аглядаць цела на наяўнасць кляшчоў.

### Што ж рабіць, калі клешч вас усё ж укусіў?

У выпадку прысмоктвання кляшча варта як мага хутчэй яго выдаліць. Зрабіць гэта лепш у траўматалагічным або хірургічным кабінеце. Але калі такой магчымасці няма, выдаліць яго можна самастойна адным з наступных спосабаў:

1. Пры дапамозе бавоўнянай ніткі. Яе завязваюць у вузел, як мага бліжэй да хабатка. Закручваючы канцы ніткі пры дапамозе кругавога руху, здабываюць кляшча, паволі падцягваючы яго ўверх. Рэзкія рухі недапушчальныя.



2. З дапамогай выкручвальнікаў кляшчоў.
3. Пінцэтам. Кляшча трэба захапіць як мага бліжэй да хабатка. Затым яго акуратна выцягваюць, круцячы вакол сваёй восі ў зручны бок. Звычайна праз 1-3 абароту клешч выцягваецца цалкам разам з хабатком. Калі ж кляшча паспрабаваць выдраць – ёсць вялікая верагоднасць яго разрыву.

Пасля выдалення кляшча скуру ў месцы яго прысмоктвання апрацаваць настойкай ёду або 70% спіртам і абавязкова звярнуцца ў паліклініку па месцы жыхарства да ўрача (тэрапеўта, педыятра ці інфекцыяніста) для прызначэння прафілактычнага лячэння і арганізацыі медыцынскага назірання.

**Выконвайце рэкамендацыі – гэта дазволіць Вам пазбегнуць непажаданых наступстваў ад сустрэчы з кляшчом.**

# Танцамі праслаўляла Бога моладзь у Браславе



Святлана Пяткоўская з Варапаева.
*Фота Марыны Сінкевіч*

**У суботу, 7 траўня, у Браславе прайшоў конкурс танца сярод моладзі Віцебскай дыяцэзіі.**

■ **Зміцер Лупач**, *Каталіцкі Веснік*

Мерапрыемства было арганізаванае па ініцыятыве саміх маладых людзей. Як адзначыла арганізатар конкурсу сястра Тацццяна Гмыза: "Моладзь вельмі прасіла правесці такі конкурс. Калі быў конкурс песні ў Мёрах, яны вельмі хацелі, каб прадставіць сябе і танцам".

Сярод вернікаў існуе думка, што касцёл і танцы рэчы несумяшчальныя. Але і духоўныя асобы, што былі на мерапрыемстве, і сама моладзь даказвалі, што гэта не так. У танцы раскрываюцца пачуцці чалавека, яго ўнутраны свет. І гэтыя рэчы цяжэй падрабіць, бо яны выходзяць з сэрца чалавека, з глыбіні яго душы. Таму славіць Бога танцам не толькі можна, але і патрэбна.

У конкурсе прынялі ўдзел пяць камандаў: з Глыбокага, Мёраў, Варапаева і Браслава. Браслаў як гаспадар мерапрыемства выставіў дзве каманды — малодшага і старэйшага ўзросту.

Конкурс распачаўся ў 18 гадзін з малітвы ў касцёле. Моладзь прыгожым спевам і малітвай праслаўляла Пана Бога. Прыемна было бачыць у касцёле столькі моладзі. З гэтага было відаць, што будучыня ў Каталіцкага Касцёла ў Беларусі ёсць.

Пасля малітвы ўдзельнікі перайшлі ў парафіяльны дом, дзе і распачаўся сам конкурс.

Настрой усім падняла ўдзельніца конкурсу Яна, якая выканала прыгожую песню, у якой праслвіла Бога. Вядучая мерапрыемства Анжэла Пілат абʼявіла склад журы, куды ўвайшлі Ганна Базарэвіч, Ірына Гайдамовіч і ксёндз Андрэй Бочар.

Пасля гэтага адбылося лёсаванне – прадстаўнікі ад кожнай каманды выцягнулі нумар, згодна з якім яны павінны былі выступаць. Першымі выступала каманда з Мёраў, потым малодшая група з Браслава. Пасля іх выступалі танцоры з Варапаева, потым старэйшая група з Браслава. Апошняй, пятай, выступіла каманда з Глыбокага.

Конкурс складаўся з трох намінацый. Спачатку каманды прывіталі гледачоў сваім танцам на вольную тэму, у другой частцы каманды паказалі парны танец, а ў апошняй намінацыі ўдзельнікі прадставілі танец-флэшмоб.

Выступленні кожнай каманды былі прыгожымі і непаўторнымі, нягледзячы на тое, што маладыя людзі не былі прафесійнымі танцорамі. Арыгінальным быў выступ прадстаўнікоў з Глыбокага, Мёры здзівілі гледачоў сваім флэшмобам пра перамогу дабра над злом, а малодшая каманда з Браслава спадабалася ўсім сваім вясёлым настроем, які перадаўся і гледачам. Танцоры з Варапаева выканалі танец у стылі рок-н-ролу, а старэйшая каманда з Браслава запомнілася ўсім сваім парным танцам.

Як адзначыла Святлана Пяткоўская з Варапаева:

– *Цяжкасці, вядома, былі, але атрымалася ў нас нядрэнна. Хлопцы і дзяўчаты танцавалі адчуваючы свой танец. Была ў нашым танцы і малітва. Я вельмі хвалявалася за сваіх дзяўчат і за сябе таксама. Але ўсё атрымалася добра.*

*А праслаўляць Бога ў танцы можна, яго трэба ў кожнай сваёй справе праслаўляць, будзь гэта танец або спеў ці штосьці іншае. Усё жыццё, кожны дзень, кожная хвіліна – гэта Бог.*

Журы цяжка было вызначыць пераможцу, але ўсё ж першае месца было прысуджана гурту з Браслава "Dream Team", у які ўваходзіла моладзь старэйшага ўзросту. Другое месца дасталося камандзе з мёрскай парафіі, а трэцяе – камандзе "Дзеці Хрыста" з Варапаева.

Каманда з Глыбокага была прызнана самай арыгінальнай, а гурт "Сіняе вока", які абʼядноўваў малодшых браслаўян, самым вясёлым.

Усе ўдзельнікі атрымалі прызы, а таксама ад Ганны Базарэвіч дыскі з беларускімі танцамі. Пасля конкурсу і пачастункаў прайшла моладзевая дыскатэка, падчас якой моладзь змагла адпачыць і бліжэй пазнаёміцца адзін з адным.

На думку арганізатараў, такія мерапрыемствы трэба праводзіць часцей, бо нягледзячы на тое, што моладзь пастаянна мае між сабой зносіны ў сацыяльных сетках, такія "жывыя" сустрэчы вельмі важныя.



Танец паказваюць прадстаўнікі Глыбокага.
*Фота Марыны Сінкевіч*



Каманда-пераможца з браслаўскай парафіі. *Фота Марыны Сінкевіч*



## Віншаванкі

*Іну Сяргееўну Сядову*

**Віншуем з Днём нараджэння!**

Пусть, словно в сказке, сбудутся мечты
И станет жизнь чудесной, легкой, яркой,
Вокруг цветут прекрасные цветы
И радуют желанные подарки!
Пусть новый день удачу принесет
И станет верным спутником везенье,
Пусть впереди лишь только радость ждет!
Любви! Успехов! Счастья! С Днем рожденья!

*Калектыў "ВГ"*

*Станіслава Альбертавіча Пятрагу*

**Віншуем з 80-гадовым юбілеем!**

Восемьдесят лет — не шутка,
Это целый юбилей,
Дедушку мы поздравляем,
Дорогой наш, не болей!

Ты живи всегда с надеждой,
Веру тоже не теряй,
Будь здоровым и счастливым,
Никогда не унывай.



*Жонка, дзеці, унукі.*

